ДЗІЦЯЧАЯ ГАЗЕТКА

# Несцерка

Будзь разам з намі!

№4(47)

4 красавіка 2003 года

Падпісны індэкс: **63672**



## Пагоня

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*За краіну радзімую жах —*
*Ўспомню Вострую Браму святую*
*І ваякаў на грозных канях.*

*Ў белай пене праносяцца коні,*
*Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

*У бязмерную даль вы ляціце,*
*А за вамі, прад вамі — гады.*
*Вы за кім у пагоню спяшыце?*
*Дзе шляхі вашы йдуць і куды?*

*Мо яны, Беларусь, панясліся*
*За тваімі дзяцьмі ўздагон,*
*Што забылі цябе, адракліся,*
*Прадалі і аддалі ў палон?*

*Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць...*

*Маці родная, Маці-Краіна!*
*Не ўсцішыцца гэтакі боль...*
*Ты прабач, Ты прымі свайго сына,*
*За Цябе яму ўмерці дазволь!*

*Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,*
*Срэбнай збруяй далёка грымяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

***Максім Багдановіч.***

## Ёсць такі дзень...



85 год таму на палітычнай карце свету з'явілася новая дзяржава. **25 сакавіка** 1918 года **Беларуская Народная Рэспубліка** аб'явіла аб сваёй незалежнасці і самастойнасці. З таго часу кожны год **Дзень Волі** адзначаюць усе свядомыя беларусы.

# Распавед Ката

***З Бібліі мы можам даведацца аб жыцці і цудах Ісуса са слоў апосталаў і іншых людзей, якія былі разам з Ім. А што б нам маглі распавесці жывёлы, якія жылі ў той час і сустракаліся з Ісусам?***

***"Несцерка" працягвае друкаваць цудоўныя гісторыі Элізабет Эйнслі па просьбах нашых чытачоў.***



— Ох! Як сумна, — пазяхнуў Ослік, — за цэлы дзень нікога... Вечарам усе збяруцца паслухаць распавед. Хутчэй бы! Ён выглянуў з хлева на шумную вясковую вуліцу. У паветры лёталі галубы і вераб'і, а ў полі, побач з хлевам, пан Сабака гуляў у дагонкі з трусамі. Яны былі сябрамі і часта гулялі разам. Ослік паназіраў за імі крыху і вырашыў, што час перакусіць. Толькі ён закончыў вячэру, як у хлеў вельмі паважна ўвайшоў пан Кот.

— Добры дзень, пан Кот! — радасна ўсклікнуў Ослік. — Рады вас бачыць. Я ўжо зачакаўся.

— Ну, вось і я, — прамовіў Кот. — Гатовы распавядаць, але тут нікога няма.

Ён акінуў позіркам пусты хлеў.

— Хутка ўсе збяруцца, — запэўніў яго Ослік.

Наступіла маўчанне, але тут у хлеў уляцелі два галубы і весела прывіталі Осліка і Ката.

— Добры вечар! Вы нам раскажаце сёння сваю гісторыю, пан Кот?

— Для гэтага я і прыйшоў, як абяцаў, — важна заўважыў Кот, — але не расказваць жа мне толькі для вас і пана Асла. — І ён сабраўся пакінуць хлеў, але галубы прыпынілі яго.

— Не пакідайце нас, пан Кот, пачакайце, калі ласка, некалькі хвілін, і мы прывядзём астатніх слухачоў.

І галубы паляцелі. Кот вярнуўся да Осліка і павольна разлёгся на падлозе — на самым зручным месцы.

— Даю вам толькі дзве хвіліны майго каштоўнага часу, — прамовіў ён. — У такі цудоўны вечар мне ёсць чым заняцца. Ослік супакоіўся. Ён быў упэўнены, што галубы стрымаюць сваё слова. І сапраўды, праз хвіліну ў хлеў уляцела чародка вераб'ёў, а ўслед за імі — паўсонная Сава. Бо для яе было вельмі рана.

— Гэта зусім іншая справа, — заўважыў пан Кот. Не прайшло і дзвюх хвілін, як усе сабраліся ў хлеве. Пан Кот быў задаволены. Ён абдарыў галубоў прыхільнай усмешкай, калі яны, запыхаўшыся, узляцелі на сваё месца.

— Вы можаце пачынаць, пан Кот, — сказаў Ослік. І Кот пачаў свой распавед.

— Гісторыя мая пачынаецца з таго часу, калі я быў яшчэ маленькім кацяня. Усё пачалося з маёй першай прагулкі разам з маці. Яна павяла мяне, каб паказаць вялікі храм. Я памятаю сваю разгубленасць, калі ўбачыў шмат людзей. Было свята, як растлумачыла мне маці, і ў Іерусаліме сабралася многа народу. Усе былі ва ўзнятым настроі, частавалі нас, чым толькі можна, і мне таксама стала весела. Мы падышлі да дзвярэй храма, але маці не дазволіла мне ўвайсці туды. "Там людзі пакланяюцца Богу, — сказала яна. — Гэта вельмі святое месца!" Таму мы проста абышлі двор храма, дзе было шмат цікавага. Гэта была цудоўная прагулка!

— Поўнасцю згодна з вамі, — заўважыла Сава. — Я часта пралятаю над гэтым месцам і нават саджуся час ад часу на дах храма. — І яна з выклікам паглядзела вакол, чакаючы, напэўна, што хтосьці палічыць яе ўчынак недарэчным. Але ўсе пабойваліся Савы, і ніхто нічога не сказаў.

Пан Кот быў, аднак, не з пужлівых. Ён

*Працяг на ст. 3.*

Пачатак на ст. 2.

адарыў Саву высакамерным позіркам і працягваў:

— Некалькімі днямі пазней, калі мая маці драмала на сонейку, я вырашыў здзейсніць самастойную прагулку. Пахадзіўшы крыху, я зноў апынуўся каля храма. На гэты раз там было менш народу, чым у свята, і ва ўнутраным двары я аказаўся амаль адзін. Я блукаў вакол, пакуль не падышоў зноў да дзвярэй храма і ..., — тут Кот прыпыніўся і агледзеў слухачоў, ён хацеў убачыць, якое ўздзеянне выклікае яго расповед, — ... і я ўвайшоў у храм.

— Ой! — усклікнулі здзіўленыя слухачы.

— Няўжо вы ўвайшлі, пан Кот? — спытаў голуб.

— О так, — самаўпэўнена адказаў Кот. — Мне хацелася бачыць, як там унутры.

— Там цудоўна, мы ўжо гэта ведаем, — прапішчэла самая маленькая Мышка.

— Ужо, зразумела, ведаеце, — заўважыў Кот і ўважліва паглядзеў на мышак. — Мне здаецца, я чуў вашу валтузню, калі быў у храме. Мышкі не сказалі больш ні слова, толькі сядзелі і слухалі.

— Я ўжо крыху стаміўся ад такой доўгай прагулкі, — працягваў Кот, — таму вырашыў знайсці месца, дзе можна было б адпачыць. З аднаго пакою чуліся галасы, і я пайшоў паглядзець, што там адбываецца. Я ціхенька прабраўся туды, стараючыся нікому не замінаць, і ўбачыў вучоных мужчын, якія сядзелі ў коле. Мне іх раней паказвала маці і расказвала пра іх вялікую вучонасць. Але мяне ўразіла тое, што ўсе яны слухалі хлопчыка гадоў дванаццаці. Нават я, маленькае кацяня, адразу заўважыў, што яны здзіўляліся Яго словам. Ён задаваў ім такія глыбокія пытанні і так мудра адказваў на тое, аб чым яны пыталі Яго! Я нават забыў пра сваю зморанасць.

— Мабыць, у дзяцінстве Ісус быў незвычайным хлопчыкам, — заўважыла Ваверка. — Я бачыла Ісуса, калі Ён ужо быў дарослым, а ці бачыў хто-небудзь Яго яшчэ маленькім?

— Не, не бачылі, — пакачалі галоўкамі слухачы.

— Значыць, пан Кот, вы — адзіны з нас, хто бачыў Ісуса ў дзяцінстве, — заключыла Ваверка. — Які вы шчаслівы!

Гэтыя словы спадабаліся Кату. Ён заўсёды адчуваў, што быў "асаблівым", і цяпер гэта пацвердзілася! Кот быў вельмі рады. Некаторы час ён нават сядзеў і маўчаў, самазадаволена разважаючы аб тым, які ён выдатны.

— Пан Кот, — паклікаў яго Вожык трохі раздражнёна, — не маглі б вы прыгадаць, што было далей? — Вожыка крыху стамлялі высакамерныя паводзіны Ката.

— Безумоўна, памятаю! І памятаю вельмі добра, — даволі рэзка адказаў Кот. — У той час, як я слухаў Ісуса, нечакана расчыніліся дзверы, і ў пакой увайшлі мужчына і жанчына ў поўнай разгубленасці. "Сын мой! — усклікнула жанчына. — Што ж ты робіш з намі? Твой бацька і я шукалі цябе паўсюль". "Навошта ж вы шукалі? — спытаў Ісус. — Няўжо вы не ведалі, што мне неабходна быць у Храме, доме майго Бацькі?"

— Я заўважыў здзіўленне на твары Яго маці, — працягваў пан Кот, — але яна нічога не сказала, і хлопчык паслухмяна выйшаў з імі з храма.

— І вы пайшлі за імі? — спытаўся адзін з вераб'ёў.

— Не, — адказаў Кот, — калі я ўбачыў адчай Яго маці, я прыгадаў, што і сам даўно збег ад свае маці, і што мне пападзе, калі я не вярнуся да таго, як яна прачнецца. Таму я, як мага хутчэй, пабег дамоў.

Звяркі засмяяліся.

— І нам таксама пара дамоў, — зашчабяталі вераб'і, калі заўважылі, што ўжо згушчаецца змрок. Яны падзякавалі пану Кату за расповед, захлопалі крыльцамі і паляцелі. Вераб'і абляцелі вакол хлева, дзелячыся ўражаннямі ад пачутага расповеду. "Я так рады, — шчабятаў адзін з вераб'ёў, — так рады, што Бог паслаў Свайго Сына яшчэ маленькім у гэты свет, каб Ён змог вырасці сярод нас і паказаць нам, як трэба жыць!" І ўсе згадзіліся з гэтым, разважаючы пра свайго цудоўнага Нябеснага Бацьку.

*(Працяг будзе).*



# У гасцях у казкі

"Казачная краіна дзяцінства", — менавіта такія словы ўзнікаюць у маіх думках, калі я ўспамінаю "Зубраня". І зараз я хачу падзяліцца з вамі сваімі ўражаннямі.



Там сапраўды было цікава і весела: розныя канцэрты, мерапрыемствы, гульні, басейн, танцы, кіно, прагулкі ўздоўж возера Нарач. І заўсёды побач важатыя. Яны дапамагалі вырашаць нашыя праблемы і падтрымлівалі добры настрой. Трэба абавязкова сказаць, што ўсе важатыя дужа ўважлівыя і таленавітыя. Жыццё лагера трымаецца на іх творчасці і вялікім энтузіязме.

Я адпачывала ў дружыне "Азёрная". А яшчэ ёсць "Лазурная", "Лясная", "Сонечная". Усе жылыя карпусы стаяць на беразе Нарачы. Гэта возера знакаміта сваёй чысцінёй і прыгажосцю. Летам там жывуць лебедзі. Пра возера існуе шмат легендаў, як і пра тую крыніцу "кахання", да якой мы часта хадзілі гуляць. Гэта крыніца ў форме сэрца. Вада ў ёй вельмі сцюдзёная і смачная. Калі п'еш гэтую ваду, трэба загадаць жаданне, яно павінна абавязкова здзейсніцца. У мяне здзейснілася...

Сярод дружын праводзіліся розныя конкурсы і спартакіяды. У спаборніцтвах па баскетболу і валейболу мы занялі першае месца. А яшчэ наш атрад быў адзначаны на конкурсе на лепшы выраб "Натхненне".

Што такое дыскатэка, нікому распавядаць не трэба. Але аднойчы ў нас праводзілася незвычайная дыскатэка. Важатыя прапанавалі нам праявіць сваю фантазію і, выкарыстоўваючы звычайныя рэчы, зрабіць свой выгляд незвычайным. Мы потым сябе не пазналі: адзенне задам наперад, валасы на галаве ў розныя бакі, размаляваная скура — усяго і не апішаш. Я намалявала на твары вяснушкі, завязала хвосцікі і выглядала, як маленькая-маленькая дзяўчынка. Усім было весела. На наступны дзень амаль кожны выказаў думку, што настрой усё ж такі залежыць ад таго, як ты выглядаеш.

У "Зубраня" ёсць адна традыцыя. Перад сном мы збіраліся на атрадным месцы, садзіліся ў кола і распавядалі пра сябе, дзяліліся ўражаннямі, нешта раілі адзін аднаму, карацей кажучы, падводзілі вынікі пражытага дня. Напрыканцы жадалі ўсім добрай ночы і спявалі зубрацкую песеньку...



Хутка, вельмі хутка праляцелі дваццаць дзён. Развітанне было дужа цяжкім. Але "Зубраня" назаўсёды застанецца ў маіх успамінах і на фотаздымках. Мне пашчасціла пабываць у казачнай краіне дзяцінства і знайсці новых сяброў. Ад усяго сэрца я жадаю гэтага і вам.

***Юлія Ладзік, г. Горкі, Магілёўская вобл.***

# Нарачанская замалёўка

Так далёка ад дому, самастойна і амаль на месяц, я яшчэ ніколі не ад'язджала. Мая першая "дарослая" паездка была ў Нацыянальны дзіцячы лагер "Зубраня". Адпачывала я ў "Сонечнай" дружыне. І наш корпус мы называлі "наш першы сонечны корпус". Усё ў лагеры было добра, нават школа. Я ніколі не хацела так вучыцца, як у "Зубраня". Можа клімат там іншы? А можа ад таго, што кармілі нас аж пяць разоў на дзень. І так смачна!

Наш атрад вельмі любіў прымаць удзел у розных спаборніцтвах і конкурсах. Амаль кожны раз нам шанцавала, і мы станавіліся пераможцамі. А гэта значыць, што мы атрымлівалі не толькі задавальненне ад перамогі, а яшчэ і салодкія прызы. Яшчэ я дужа любіла хадзіць у басейн. На вуліцы халодна, а ты плёскаешся ў вадзе, гуляеш з мячыкам, плаваеш наўздагон.

Кожны вечар мы збіраліся ўсе разам і распавядалі нешта цікавае. У коле сваіх новых сяброў я вучылася быць шчырай і да сябе, і да іншых, вучылася слухаць і распавядаць. Здаецца, я стала больш дарослай і разважлівай. Я вельмі любіла слухаць сваіх важатых. Як шмат яны ведаюць! А паданні пра Нарач я была гатовая слухаць усю ноч. Зусім нядаўна адну з гэтых легендаў я знайшла ў кніжцы. Прапаноўваю і вам яе прачытаць.

## ВОЗЕРА НАРАЧ

*У гушчары старых бароў, як сляза, упаўшая з неба, блішчэла вялікае возера. Вельмі прыгожым яно было. Расказы пра яго чароўнасць ішлі ад паселішча да паселішча і нават у далёкія краіны заходзілі.*



*А яшчэ казалі людзі, што ў вёсцы, што прыляпілася да аднаго з берагоў возера, жыла дзяўчына-сіраціна па імені Найрыта, а аднавяскоўцы звалі яе Нарай. Вочы яе блакітныя, колеру азёрнай хвалі, заўсёды весела ўсміхаліся. Залацістыя валасы тугой касой абкручвалі галаву. Голас у яе быў высокі і гучны.*

*Бывала, сядзе на беразе пад разлапістым клёнам, дзе збіралася звычайна моладзь, на гусельках грае і спявае. Спачатку голас павольна плыве, а пасля ўзлятае высока і ляціць над пабярэжжам. У гэты час і птушкі спынялі свой спеў. Людзі забываліся пра сваё гора.*

*Аднойчы, калі Нара спявала, праязджаў вёскай пан, стары ўдавец. Пачуў ён дзівосную песню і загадаў спыніць каня. Слухаў, слухаў і сказаў Нары:*

*— Прыгожая кветка вырасла ў дзікім краі. Табе толькі спяваць у маіх пакоях.*

*— Кепская з мяне будзе служанка, — прамовіла Нара.*

*— Ты будзеш гаспадыняй, жонкай маёй, — зазначыў пан.*

*Вакол Нары сядзелі на зялёнай мураве хлопцы і дзяўчаты. Адзін з іх, чарнявы хлопец, падышоў да пана.*

*— Гэта мая нявеста, — сказаў ён, — а пан няхай сярод паноў жонку шукае.*

*— Ці не сын ты таго Пятра, што бунтаваў мне народ? — успомніў пан, чырванеючы ад злосці. І залямантаваў: "Узяць яго!"*

*Прыслужнікі звязалі Андрэйку і павезлі ў маёнтак. Больш яго ніхто не бачыў. Праз некаторы час пасля гэтага здарэння пан зноў прыехаў да Нары даведацца, ці згодна яна да шлюбу. Дзяўчына зрабіла выгляд, што згадзілася. Тут жа дамовіліся пра вяселле.*

*Надышоў гэты дзень. Злосны вецер гнаў цёмныя хмары, а лес спяваў жалобныя песні. Нара ехала на фурманцы ў маёнтак, у руках трымала пакунак. Сустрэлі яе служанкі. Завялі ў панскія пакоі і апранулі ў шлюбнае адзенне. І Нара выйшла такой прыгажуняй, што ні пяром апісаць, ні ў казцы расказаць. Пакланілася яна пану ды папрасілася перад шлюбам крышку адной пабыць у пакоях. Пан згадзіўся. Ходзіць ён па двары, на служанак пакрыквае і на дзверы паглядвае. А Нара тым часам з пакунка дастала смалякі ды падпаліла пакоі адзін за другім. І калі шугануў чорны дым з акон, а на даху заскакалі чырвоныя языкі полымя, выскачыла праз акно і на сваёй фурманцы, паганяючы каня, паехала ў вёску. Прыйшла на тое месца, дзе з Андрэйкам часта сустракала ўсход сонца, прыхілілася да клёна і горка заплакала.*

*Ды тут пачуўся конскі тупат. Прыехалі панскія служакі. Бегалі па ўсёй вёсцы. Людзей бізунамі білі. Дапытваліся, дзе Нара.*

*— Вось яна, — закрычаў адзін з іх.*

*— Жывую не возьмеце, — крыкнула ворагам дзяўчына і кінулася да возера.*

*Цёмныя хвалі з белымі грабянямі ішлі адна за другой, а на беразе калыхаўся човен. Той човен, у якім Нара з Андрэйкам не раз каталіся. Спрытна і ўмела ўхапілася яна за карму і, адштурхнуўшыся ад берага, села ў човен.*

*— Я адпомсціла, пан, за Андрэйку, за яго бацьку і за ўсіх тых, хто загінуў ад тваіх рук у тваім маёнтку, — прашаптала Нара.*

*Ад злосці панскія служакі кінулі гуслі ў возера. А човен адплываў усё далей і далей, потым зусім знік у хвалях. Усю ноч бушавала возера. Стагналі хвалі...*

*З таго часу і назвалі людзі возера імем смелай дзяўчыны. Да нашых дзён дайшла назва Нарач.*

Вось такая сумная гісторыя. Амаль такая сумная, як і маё развітанне з лагерам, маімі сябрамі і любімымі важатымі. У мяне ёсць жаданне зноў трапіць у "Зубраня". І калі яно здзейсніцца, я буду самая шчаслівая.

**Таццяна Камедзька, г. Горкі, Магілёўская вобл.**



# Што такое ДНА?

Дарагія чытачы! Калі ласка, звярніце ўвагу на гэтыя старонкі. З гэтага моманту вы можаце стаць не толькі карэспандэнтамі "Несцеркі", але і газеты "ДНА", якая выдаецца ў адным з ліцэяў Варшавы. Усе дасланыя да нас матэрыялы, мы будзем перасылаць у Варшаву электроннай поштай. Толькі зрабіце адзнаку — для "ДНА". Аб чым пісаць? Аб усім: праблемы, дасягненні, захапленні, разважанні, прыгоды ... Думаем, што вы зможаце зразумець адзін аднаго. А для пачатку, уважліва прачытайце артыкул, адгукніцеся на просьбу і прыміце ўдзел у нашым конкурсе. Хто ведае, можа вы знойдзеце новых сяброў!

***ПРЫВІТАННЕ, ДЗЕЦІ З БЕЛАРУСІ!***

Гэта я, вясёлы велікан Марыўш, галоўны рэдактар варшаўскай газеты "Д Н А". На фотаздымку я трымаю нашага дырэктара ліцэя. Як бачыце, я магу пераадоліць любыя цяжкасці. Наша газета існуе ўжо два гады. Яна рознакаляровая, тоўсценькая (як я) і, лічу, змястоўная.



Назву можна разглядаць па-рознаму: ДНА — дэзоксірыбануклеінавая кіслата (традыцыйна); ДНА — дырэктар — наш аўтарытэт (падхалімна); ДНА — дасье незвычайных артыстаў (дакладна!). Рубрыкі самыя розныя: інтэрв'ю са знакамітымі польскімі спевакамі, мастакамі; рэпартажы з выстаў, вернісажаў і нават вяселляў! Мы друкавалі ўнікальныя фотаздымкі з вяселля нашага настаўніка французскай мовы, які гэтым лета ажаніўся (хопіць уздыхаць, школьныя прыгажуні!). На старонках газеты мы праводзім супер-конкурсы: на лепшага акцёра (актрысу), на самую чароўную дзяўчыну і самага стыльнага юнака. Спонсары, якіх нам пашчасціла знайсці, пакарыць і затрымаць, балуюць нас celebrations рознымі ласункамі, прызамі і квіткамі ў кіно.



**Без слоў!**



**"Тры парася" — інтэрнацыянальная казка.**

А мы стараемся: пішам апавяданні, складаем вершы, інтэрв'юіруем, выдумляем. Як і вы! З некаторымі з вас мы ўжо завочна пазнаёміліся. Ах, гэтая чароўная карэспандэнтка Таццяна, чыё фота ўпрыгожвае адзін з нумароў "Несцеркі", які мы атрымалі. Пішыце, задавайце пытанні, дасылайце свае матэрыялы. Адкажам, надрукуем, абрадуемся.

Пакуль!

***Марыўш, Варшава.***



**Выстава Алеся Ліціна, фотамастака з Магілёва, у Варшаўскім ліцэі.**

***Увага! "Несцерка" і "ДНА" абвяшчаюць сумесны конкурс!***

1. Адкажыце на пытанні віктарыны. Гэта не складана, было б жаданне. Пытанні можна не перапісваць. Галоўнае: не пераблытайце нумары. Будзьце ўважлівы.

2. Прыдумайце не менш пяці (можна болей) пытанняў пра нашу Беларусь. Пажадана, каб яны ахоплівалі розныя сферы, не толькі гісторыю. Пытанні павінны быць цікавымі і зразумелымі. Не забудзьце напісаць адказы.

3. Абавязкова вышліце свой фотаздымак і ўкажыце свой поўны паштовы адрас. ГАРАНТУЕМ: пераможцы абавязкова атрымаюць прызы, а іх фотаздымкі і прозвішчы упрыгожаць старонкі газеты "ДНА" і "Несцерка".

Чакаем вашых лістоў да **1 траўня**.



1. Хто быў першым уладаром Польшчы?
2. Хто быў першым каралём у Польшчы?
3. Які горад быў першай сталіцай Польшчы?
4. Самая вялікая бойка 1410 г. на тэрыторыі Польшчы?
5. Самы знакаміты польскі астраном і яго адкрыццё?
6. Першы польскі касманаўт?
7. Хто з польскіх палітыкаў атрымаў Нобелеўскую прэмію?
8. Пасля якой падзеі Польшча атрымала незалежнасць?
9. Назавіце сталіцы Польшчы ў храналагічнай паслядоўнасці?
10. Ці ўваходзіць Польшча ў НАТА?
11. Хто з'яўляецца прэзідэнтам Польшчы?



12. Хто з'яўляецца прэм'ер-міністрам Польшчы?
13. Назавіце самы папулярны ансамбль у Польшы ў цяперашні час?
14. Назавіце самага вядомага польскага пісьменніка-фантаста?
15. Польскі паэт, лаўрэат Нобелеўскай прыміі?
16. Што ўяўляе сабой польскі герб?
17. Кім быў на палітычнай арэне Польшчы Эдвард Герэк?
18. Хто выйграў першыя свабодныя прэзідэнцкія выбары?
19. Якая частка тэрыторыі Польшчы заселена нямецкай меншасцю?
20. Хто будзе прадстаўляць Польшчу на конкурсе Еўрабачання?
21. Якая значная падзея адбылася ў 1989 годзе?
22. Хто быў вялікім польскім кампазітарам эпохі рамантызму?
23. Назавіце імя самага вядомага польскага паэта-рамантыка?
24. Як называюцца польскія авіялініі?
25. Хто з польскіх рэжысёраў атрымаў Оскара?



*Вясной абуджаецца прырода. Кожны з нас чакае яе надыходу. А з надыходам вясны чакаем Светлага дня Пасхі. Хутка гэты дзень настане. А пакуль паспрабуйце зрабіць заданні, якія даслала для вас Юля Кавалёва.*

**1**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | С | з | Б | о | г | | |
| | д | і | х | я | т | с | н | |
| М | с | н | ц | ш | ы | д | а | с |
| а | а | а | в | е | у | ф | к | д |
| й | а | й | б | г | а | р | а | ф |
| с | п | ф | с | р | і | г | з | г |
| е | о | г | н | е | о | ч | ы | ч |
| й | і | ч | в | м | й | й | б | ч |
| с | у | в | о | б | л | а | к | а |
| е | ы | й | л | ь | п | і | м | ч |
| р | т | к | я | л | ю | ь | м | й |
| т | е | в | а | п | а | З | м | к |

Бог з любові да людзей заключыў на гары Сінай саюз з абраным народам. Саюз — гэта ўрачыстая дамова паміж людзьмі і Богам. Бог сказаў: "Я — Бог твой." І абяцаў апекаваць абраны народ. На гары Сінай Бог праз Майсея абвясціў сваю волю ў дзесяці Божых наказах. Абраны народ абавязаўся выконваць Божыя наказы. Кожны чалавек, які хоча выконваць Божую волю:

— ведае наказы;
— разумее іх;
— выконвае іх.

ЗАДАННЕ №1

**Сярод літар знайдзі 8 слоў, якія маюць дачыненне да тэмы Божых Наказаў**

Тры першых запаведзі адносяцца да Бога, астатнія — да адносін паміж людзьмі.

ПЕРШАЯ ЗАПАВЕДЗЬ: **Не май іншых Багоў, апроч мяне.** Ісус вучыць нас, як трэба шанаваць і ўсхваляць Бога. Пашану Богу мы аказваем тады, калі молімся, чытаем Біблію і рэлігійныя кнігі, даведваемся пра Бога і выконваем Яго наказы. Малітва — гэта размова з Богам. Маліцца можна думкай, мовай і рэлігійным спевам. Іншымі "багамі" становяцца, на жаль, не толькі нейкія ідалы, а і тэлевізар, гульні. Гэта адбываецца тады, калі ў назначаны час малітвы, мы аддаем перавагу ім.

ЗАДАННЕ №2

**Размалюй тыя прадметы, якія ты выкарыстоўваеш пад час малітвы.**

**2**



**3**




ЗАДАННЕ №3

**Узбіраючыся на гару, збяры літары ў такім парадку, каб атрымаліся словы Ісуса. Гэтым самым ты прадоўжыш яго выказванне. Запішы іх.**

**"У доме майго Айца шмат пакояў.**

___ ___________

___ _____" **(Ян 14,2).**

## *Разважанні на тэму*

*Каменне... Сымбаль граху... Як іх шмат! Яны такія вялікія, цяжкія гэтыя грахі... Іх можа і не быць. Але мы ж не святыя. Аднак яны могуць быць меншымі, могуць быць лягчэйшымі...* **Старонку падрыхтавала Юлія Кавалёва, г. Мсціслаў, Магілёўскай вобл.**

*Юля, патэлефануй, калі ласка, да нас у рэдакцыю!*

**Адказы на крыжаванку, надрукаваную ў №3:**

1. Пралеска; 2. Прас; 3. Рака; 4. Самавар; 5. Слова; 6. Алень; 7. Стол; 8. Крот; 9. Парасон.

Заснавальнік і рэдактар — Ірына Каралькова.

*Кошт газеты ў падпісцы — 212 рублёў за нумар.*

Газета зарэгістравана ў Дзяржкамітэце РБ па друку 14.09.2000 г. **Пасведчанне №1528.**

**Газета надрукавана ў абласной друкарні імя Спірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70.**

**Замова 22. Наклад 1300 асобнікаў. Падпісана да друку 03. 04. 2003г. а 17.00.**

***Адрас рэдакцыі:***
213410, Магілёўская вобл.,
г. Горкі, вул. Цыялкоўскага, 23
**Тэл. 8-(02233)-5-09-59**
**E-mail: nescerka@hotbox.ru**